# ХТО ПІША КАНСТЫТУЦЫЮ?

(Пачатак на стар. 1).

нальнай рэарганізацыі эканамічных адносін, ад цяперашняй эканомікі — да рынчнай. Адпаведна ўзнікае неабходнасць *пераходных палажэнняў* Канстытуцыі, якія тычыліся б дзяржаўнага ладу. Напрыклад, сёння я не магу адназначна сказаць, будзе ў нас аднапалатны парламент ці двухпалатны, у якім выглядзе будзе існаваць кантрольная ўлада — Канстытуцыйны суд, Канстытуцыйны савет ці Камітэт канстытуцыйнага нагляду, ці будзе ў нас інстытут прэзідэнцкай улады... Але відавочна, што для ўвядзення новых элементаў у структуру дзяржаўнай улады спатрэбіцца пераходны перыяд, вызначаны адпаведнымі палажэннямі закона. І важна на працягу гэтага перыяду забяспечыць значны ўздым культуры насельніцтва, каб адносіны да Канстытуцыі былі святымі. Што, уласна, характарызуе грамадзяніна кожнай цывілізаванай краіны, прававой дзяржавы.

**— Наколькі працяглым можа быць гэты пераходны перыяд?**

— Наша група не ставіць перад сабой задачу вызначыць яго межы. Гэта і не магчыма. Мы гарантуем толькі стварэнне стабільнага Асноўнага закона і не будзем арыентавацца на палітычныя ці ідэалагічныя ўстаноўкі. Група зыходзіць з прыроды чалавека, замацавання яго натуральных правоў, а таксама з паслядоўнага раздзялення ўлад — заканадаўчай, выканаўчай і судовай. Гэтыя два прынцыпы павінны забяспечыць стабільны характар дзеяння будучай Канстытуцыі. А ўжо з улікам канкрэтных абставін будзе вырашацца пытанне аб тэрмінах дзеяння тых ці іншых пераходных палажэнняў.

**— Але ж ці магчыма заканадаўцам захоўваць алімпійскі спакой ва ўмовах абвостранай палітычнай кан'юнктуры і непрадказальнасці развіцця сітуацыі ў грамадстве?**

— На гэта я магу адказаць, што ўсе рэальныя канстытуцыі былі створаны менавіта ў надзвычай бурныя часы. Класічны прыклад — Канстытуцыя Злучаных Штатаў Амерыкі. Нам таксама па сілах стварыць стабільны дакумент, каб праз нейкі час не перакройваць яго. Дарэчы будзе сказаць, што намі будзе ўлічаны і наш гістарычны вопыт палітыка-прававой нацыянальнай думкі, у прыватнасці, Статут Вялікага княства Літоўскага.

Мы вельмі абмежаваны ў тэрмінах. Свае зыходныя прынцыпы па стварэнні Канстытуцыі група мяркуе прапанаваць на зацвярджэнне бліжэйшай сесіі Вярхоўнага Савета. Марудзіць нам нельга, бо трэба закласці сістэмную аснову ўсёй заканатворчасці. Без стабільнай прававой базы мы ў сваіх рэформах не рушым наперад ні кроку.

**— Магчыма, апошнім сваім пытаннем я забягу, што называецца, паперадзе прагрэсу... Але ўявім, што ў нас ужо ёсць канчатковы тэкст новай беларускай Канстытуцыі. Якім чынам вы мяркуеце ўводзіць яе ў дзеянне?**

— Наша група падзяляе ў гэтым пытанні пазіцыю Канстытуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета РСФСР і лічыць, што для зацвярджэння новага Асноўнага закона павінна быць склікана спецыяльная Канстытуцыйная асамблея. Альбо другі падыход — распрацаваць закон аб рэферэндуме і вынесці Канстытуцыю на яго.

**А. ГАНЧАРОЎ.**

# КОЛЬКІ КАШТУЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ГОДНАСЦЬ?

**Карэспандэнт «ЛіМа» гутарыць з народным дэпутатам Беларускай ССР, намеснікам старшыні пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, членам Канстытуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета Анатолем ВЯРЦІНСКІМ**

**— Анатоль Ільіч, вось вы і пакінулі «ЛіМ»...**

— На жаль... Але толькі як галоўны рэдактар, а не як член рэдакцыйнай калегіі, не як аўтар. Ды і мае новыя службовыя абавязкі будуць звязваць мяне, мяркую, з газетай.

**— З якім настроем пакідаеце? З якім пачуццём?**

— Са змешаным пачуццём.

**— Яно і зразумела... Скончыўся цэлы перыяд у вашым жыцці, як, дарэчы, і жыцці газеты, яе калектыву. Што для вас азначае гэты крок?**

— Што датычыць «перыяду», то я мог бы тут прывесці вядомы біблейскі выраз, які ў перафразіраваным выглядзе гучыць так: а за адным перыядам пачынаецца новы перыяд. Наконт «кроку»... На першым, арганізацыйным пасяджэнні нашай дэпутацкай камісіі яе члены — па прапанове Уладзіміра Каваленка — выказаліся за тое, каб я быў адным з яе кіраўнікоў, працаваў у ёй на *пастаяннай аснове*. Яшчэ адным, унутраным, матывам было маё непрыняцце стаўшага ледзь не парадыйным статуснага палажэння: «Дэпутат ажыццяўляе свае паўнамоцтвы, **як правіла,** не парываючы з вытворчай або службовай дзейнасцю». Я — за сапраўдны, рэальны, а не паказны, фіктыўны, «ліпавы» Вярхоўны Савет рэспублікі, за сапраўдны, г. зн. рабочы, дзеяздольны, кампетэнтны нацыянальны парламент. Пра гэта я гаварыў у сваёй перадвыбарчай праграме. Такім чынам, давялося ахвяраваць, так бы мовіць, пасадай галоўнага рэдактара. Прытым гэта той выпадак, калі логіка нашых слоў і рашэнняў супадае з логікай падзей, логікай самога жыцця. Кліча, патрабуе свайго палітыка. А яна — тая кабета, з якой жарты дрэнныя... Як ты думаеш, якія паперы, якая літаратура зараз займаюць мой рабочы стол?

**— Пэўна, звязаныя з новай працай?**

— Па адзін бок — матэрыялы, неабходныя для працы ў камісіі, для яе заканатворчай *і кантрольнай дзейнасці*. Тут і латвійскі варыянт Закона аб друку (камісіі прадстаіць тэрміновая падрыхтоўка рэспубліканскага Закона аб друку і сродках масавай інфармацыі: магчыма, ён будзе называцца інакш), і экземпляры некаторых нашых новых выданняў з новымі, часам экзатычнымі назвамі («Свабода», «Парадокс», «Ласковый май» і інш.), і старое Палажэнне аб тэлеграфным агенцтве рэспублікі пры Саўміне БССР (БЕЛТА). *Па другі бок* — тэкст нашай першай Канстытуцыі, прынятай 11 красавіка 1927 г. і падпісанай старшынёй VIII Усебеларускага з'езда Саветаў А. Чарвяковым і сакратаром з'езда З. Чарнушэвічам, ксеракопіі канстытуцый ЗША і шэрагу заходнееўрапейскіх краін, сахараўская канстытуцыя, Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна 1789 г. Справа ў тым, што я яшчэ з'яўляюся членам Канстытуцыйнай камісіі, створанай Вярхоўным Саветам, уваходжу ў склад рабочай групы, якую ўзначальвае вядомы ўжо ў рэспубліцы малады парламентарый, кандыдат юрыдычных навук Віктар Ганчар, і перад якой стаіць задача ў сціслыя тэрміны падрыхтаваць свой праект Асноўнага закона рэспублікі. Адсюль і адпаведная «штудыя», патрэба ў вывучэнні міжнароднага канстытуцыйнага вопыту, розных — для асэнсавання і параўнання — канстытуцыйных ідэй, тэкстаў дэкларацый... Дарэчы, стаўшы сёння ў нас ходкім, папулярным тэзіс «Што не забаронена, тое дазволена» быў сфармуляваны ўпершыню дзвесце гадоў таму назад у артыкуле 5 *Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна 1789 г.* Вось як ён гучыць: «Закон мае права забараняць толькі дзеянні, шкодныя для грамадства. Усё, што не забаронена законам, тое дазволена і ніхто не можа быць прымушаны рабіць тое, што не прадпісана законам»...

**— Актуальна гучыць.**

— Так. Актуальнымі і павучальнымі з'яўляюцца для нас і многія іншыя артыкулы канстытуцый заходнееўрапейскіх і скандынаўскіх краін, у прыватнасці тыя, якія прысвечаны грамадзянскім правам і свабодам, свабодзе думкі, слова, друку, сумлення.

**— Карысна знаёміцца з чужымі канстытуцыямі?**

— На паверку, пры бліжэйшым, што называецца, разглядзе, высвятляецца, што не такія яны ўжо і чужыя. Чытаеш іх і пераконваешся ўвачавідкі, што агульначалавечыя каштоўнасці — гэта не выдумкі «абстрактных гуманістаў», не добрыя пажаданні «пацыфістаў», не утопія, а рэальнасць.

Але, прадоўжу, паколькі мы ўжо загаварылі пра канстытуцыі — пра нашу, будучую, і чужыя, — падзялюся яшчэ адным сваім, глыбока вынашаным меркаваннем. Удакладню, што на маім рабочым стале, пасярод яго, занялі месца і «Статут Вялікага княства Літоўскага 1588», і кнігі «Францыск Скарына. *Зборнік* дакументаў і матэрыялаў», «Францыск Скарына. Творы», і часопіс з публікацыяй «Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя. Яе мэты і задачы», і «Устаўныя Граматы да народаў Беларусі», і «Асновы дзяржаўнасці Беларусі» Доўнар-Запольскага... Як навапечаны, можа, заканадаўца я лічу — пра гэта гаварылася *і на апошнім пасяджэнні* рабочай групы, — што ў працэсе стварэння нашага Асноўнага Закона (як, дарэчы, і іншых жыццёва важных законаў) павінны абавязкова ўлічвацца набыткі нашай нацыянальнай палітыка-прававой думкі, традыцыі нашай векавой заканатворчай культуры. Мае рацыю філосаф С. Падокшын, які нядаўна ў сваім артыкуле «Тры ўрокі Скарыны», які быў змешчаны ў газеце «Звязда» і ў якім размова ідзе пра шляхі развіцця і ўсталявання на Беларусі ідэі свабоды, канцэпцыі прававой дзяржавы, — з захапленнем усклікае: «З такімі ідэямі — хоць на бліжэйшую сесію Вярхоўнага Савета Беларускай ССР!»

**— Відаць, вы ўзбройваецеся ідэямі, рыхтуючыся да наступнай і другіх сесій Вярхоўнага Савета. І тут узнікае, Анатоль Ільіч, такое пытанне. Калі меркаваць па друку і па размовах, то парламенту рэспублікі дастаецца і «справа» і «злева», і «зверху» і «знізу». На старонках «Советской Белоруссии» разгарнулася аж цэлая дыскусія — на самых відных палосах, з працягам, з заклікам: «Пішыце, маўляў, нам хутчэй і больш, дарагія чытачы! Ёсць аб'ект для вашай крытычнай увагі!»**

— Дыскусію распачаў эксміністр фінансаў, заслужаны эканаміст, як ён падпісаўся, Б. І. *Шаціла*. «*Сколько стоит* власть?»—так называецца яго артыкул. Наш учарашні фінансіст нумар адзін па пасадзе і заслужаны эканаміст рэспублікі па званні са стараннем і скрупулёзнасцю, вартымі, здаецца, лепшага прымянення, падлічыў літаральна ўсё: колькі каштуюць альтэрнатыўныя выбары, колькі каштуе тэле- і радыётрансляцыя сесіі, колькі каштуе матэрыяльнае забеспячэнне дэпутацкай дзейнасці... Падлічыў і прыйшоў, здаецца, да высновы, якая неяк не стасуецца са статусам нядаўняга члена ўрада: непатрэбныя нам, не вартыя такіх грошай такія (чытай: дэмакратычныя, на альтэрнатыўнай аснове) выбары, непатрэбныя нам, не вартыя такіх выдаткаў дэмакратычна выбраныя Саветы, у прыватнасці, Вярхоўны Савет. Я магу па-свойму зразумець афарбаваную ў настальгічныя таны пазіцыю былога міністра фінансаў. Сапраўды, выбары раней амаль нічога не каштавалі, бо іх, па сутнасці, і не было як такіх (дэпутаты, як вядома, назначаліся). Сесіі збіраліся таксама для праформы, для блізіру, збіраліся ўсяго на якіх-небудзь два-тры дні і аднагалосна «прымалі» падрыхтаваныя апаратам (у тым ліку і *Мінфінам) рашэнні і акты*, у прыватнасці, дружна, без якіх-небудзь прыдзірак і заўваг зацвярджалі чарговы гадавы бюджэт. Адпаведныя былі і выдаткі — на гасцініцу, на буфет, на сувеніры. А тут... Тут нешта іншае, нязвыклае...

Так, я магу ў нейкім сэнсе зразумець настальгію Баляслава Іосіфавіча. Але ў мяне ўсё ж ёсць да яго пытанні. Першае. Я нешта не памятаю, каб былы міністр фінансаў праяўляў раней, скажам так, габсекаўскія схільнасці і выступаў публічна за эканомію народнай капейкі. Не, ён моўчкі фінансаваў будаўніцтва і ўтрыманне так званых «охотничьих угодий» і «запаведнікаў», існаванне ўсемагчымых «спец», даволі шчодрае забеспячэнне шматлікага, розных рангаў, чыноўніцтва прасторнымі кабінетамі, персанальнымі машынамі і «сталамі заказаў»: ён не шкадаваў грошай для будаўніцтва шыкоўных адміністрацыйных будынкаў, для рэалізацыі малакарысных, а то і шкодных

# На Белай дачы спявае «Скарыначка»

У мінулую суботу, апоўдні, зноў было людна ля так званай Белай дачы ў Мінску, дзе знаходзіцца Цэнтр беларускага фальклору. Тут паказвалі сваё майстэрства ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці з калгаса-камбіната імя М. Урыцкага Гомельскага раёна: выступаў фальклорны калектыў «Скарыначка» з вёскі Крупец. «Скарыначка», якой споўнілася ўсяго пяць гадоў, карыстаецца заслужаным поспехам не толькі ў аднавяскоўцаў.

— Мы, — расказвае кіраўнік калектыву **В. Кавалёў,** — выконваем толькі свае песні, што бытуюць у нашых мясцінах. Ходзім па хатах з магнітафонам, запісваем іх ад старых людзей, а потым развучваем. Сёння «Скарыначка» — гэта дваццаць чалавек, улюбёных у беларускую народную творчасць. Выступалі мы ў Маскве на Міжнародным фальклорным фестывалі скандынаўскіх краін, запісваліся на Беларускім і Гомельскім тэлебачанні. На Белай дачы — другі раз. Праўда, гэты раз не проста выязджаем, а выступаем-запрашаем усіх добрых людзей сюды, пад засень дрэў, у гэтую хату, дзе працуюць-шчыруюць знаўцы і зберагальнікі народнага мастацтва.

Менавіта ў суботу 15 верасня Цэнтр беларускага фальклору ўпершыню расчыніў свае дзверы для ўсіх жадаючых. Запрасіў тых, хто хоча пазнаёміцца з вуснапаэтычнай творчасцю народа, з народнымі промысламі, творчасцю выдатных майстроў, традыцыямі, што зберагаюцца *і перадаюцца з пакалення ў пакаленне*: прапанаваў свае паслугі тым, хто сам жадае паспрабаваць сябе ў пэўным жанры народнай творчасці. Працаваць з імі падахвоціліся супрацоўнікі навукова-даследчай мастацкай эксперыментальнай лабараторыі Міністэрства мясцовай прамысловасці БССР, з якімі Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр заключыў дагавор.

Аб планах работы на бліжэйшы час нам расказала загадчыца аддзела мастацтвазнаўства лабараторыі **В. Лабачэўская:**

— Праграма па прапагандзе традыцый беларускіх народных рамёстваў будзе ажыццяўляцца намі на дагаворных пачат-



## *Кнігапіс*

### Лунинец



М. КАЛІНКОВІЧ. Лунінец. Гісторыка-эканамічны нарыс. На рускай мове. Мінск, «Полымя», 1990.

**Гэта апошняя яго кніга, якую паспеў патрымаць у руках Мікола Калінковіч. Сталася так, што па роду службы ён вымушаны быў жыць далёка ад роднай Беларусі—спачатку ў Ашхабадзе, потым у Маскве, а апошнія дні свайго кароткага веку ў Тбілісі. Але дзе б ні знаходзіўся, у творах сваіх расказваў пра беларусаў, якія гэтаксама, як і ён сам, жылі ў іншых рэгіёнах краіны. Да ўсяго М. Калінковіч падрабязна даследаваў учарашні дзень роднага яму кута. Вынікам гэтага сталі кнігі «Палескія дарогі Блока» і «Лунінец». Апошняя раней выходзіла ў выдавецтве «Беларусь». Цяпер жа пабачыла свет у значна дапоўненым і дапрацаваным выглядзе.**




Э. КАРПАЧОЎ. Гарачыя каскі. Аповесць і апавяданні. На рускай мове. Бібліятэчка часопіса «Пограничник», 1989, №5.

**Эдуард Карпачоў — родам з Беларусі, першую сваю кнігу выдаў у Мінску. Цяпер жыве ў Маскве, але ў творах сваіх па-ранейшаму звяртаецца да родных мясцін. Кніга «Гарачыя каскі» — у гэтым сэнсе не выключэнне. У аповесці «Доўгае чаканне ў Цытадэлі» расказваецца пра тых, хто нясе службу на заходняй граніцы. Тэматычна з гэтым творам звязаны і апавяданні «Гарачыя каскі» і «Саша ці не Саша».**

УРОК ЛЮБВІ
І НЯНАВІСЦІ



Л. ПРОКША. Урок любві і нянавісці. Раман, Мінск, «Мастацкая літаратура», 1990.

**Новы раман Леаніда Прокшы напісаны востра, займальна, мае прыгодніцкі характар. Пісьменнік праўдзіва адлюстраваў складаны пасляваенны час, калі вялася вострая барацьба за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне. Сярод герояў — маёр Савецкай Арміі Павел Корнеў, паручык Войска Польскага Стэфан Гронскі, медыцынская сястра Кася Зарэмба і іншыя. Прадстаўнікі розных народаў, яны задумваюцца над няпростымі працэсамі ў тагачасным жыцці, разумеюць, што небяспечна, калі адзін народ адасобіцца ад другога, палічыць сябе выключным.**

# Час мяняць «традыцыю»!

У 7-ым нумары «Народнай асветы» за сёлетні год змешчаны артыкул Е. Чапко з Масквы «Особенности преподавания русской литературы в условиях Белоруссии». Я як беларус і філолаг-русіст, уважліва пазнаёміўся з ім.

Скажу шчыра, артыкул гэты мне падаўся псеўданавуковым, і вельмі прыкра, што з'явіўся ён у навукова-педагагічным часопісе. Чаму? Мяркуйце самі. Е. Чапко піша: «Можно утверждать, что именно курс русской литературы лежит в основе литературного образования в средних школах республики. В качестве доказательства предлагаем результаты анкетирования студентов первого курса филологического факультета БГУ им. Ленина»... Аўтарка артыкула падае табліцу, якая «красамоўна» выдае «на-гара» яе сцвярджэнне таго, што менавіта курс рускай літаратуры ляжыць у аснове літаратурнай адукацыі ў сярэдніх школах Беларусі. У табліцы ў працэнтах паказана, як на гэтых першакурснікаў пад час вучобы ў сярэдняй школе «аказвалі ўплыў на іх літаратурную адукацыю» ўрокі беларускай і рускай літаратур. Вынікі анкеты не на карысць беларускай літаратуры. Толькі на 17% апытаных першакурснікаў станоўча паўплывалі на іх літаратурную адукацыю ўрокі беларускай літаратуры. А вось урокі рускай — аж на 31%, амаль удвая болей.

А чаму так здарылася? Ці задумалася аўтарка артыкула? Дастакова зірнуць на колькасць гадзін па абедзвюх літаратурах, каб пераканацца, што на рускую літаратуру адведзена 18 гадзін, а на беларускую — толькі 13,5. Вось вам і адказ, дзе «сабака закапаны», адкуль бярэцца той 31%.

Сёння, на мой погляд, трэба кардынальна мяняць «традыцыю» вывучэння рускай і беларускай літаратур у школах Беларусі. Рэспубліка ж аб'явіла сябе суверэннай дзяржавай, якая абавязваецца ў дэкларацыі (Артыкул I) гарантаваць «неад'емнае права на самавызначэнне дзяржаўнасці беларускай мовы, вяршэнства народа ў вызначэнні свайго лёсу...»

1 верасня ўступіў у сілу Закон «Аб мовах у Беларускай ССР». Але калі мы зазірнём у вучэбныя планы сярэдняй

# Ці ж брацкі падзел?

Што б ні гаварылі, як бы ні іранізіравалі з так званых «макулатурных» выданняў, аднак жа бясспрэчна, што яны карыстаюцца ў чытачоў велізарнай папулярнасцю. Зрэшты, будзем справядлівымі — не ўсё, што распаўсюджваецца праз макулатурныя талоны, адносіцца да разраду «Анжэліка і кароль». Сустракаюцца тут і кнігі, якія вытрымліваюць самыя строгія крытэрыі.

«Литературные сказки народов СССР»—адна з такіх. Выдавецтва «Правда» расшчодрылася і выдзеліла паперы ажно на мільён экземпляраў гэтай кнігі. Калі ўлічыць, што аб'ём яе амаль 42 улікова-выдавецкія аркушы, няцяжка ўявіць, колькі паперы затрачана, альбо, іначай, колькі лесу ўратавана: «макулатурныя» кнігі друкуюцца, як вядома, на паперы, атрыманай шляхам перапрацоўкі макулатуры.

І ўсё было б добра, калі б не адна акалічнасць, калі б не тая самая лыжка (а ды і не адна!) дзёгцю...

Складальнік тома (ён жа аўтар уступнага артыкула і заўваг) В. Калугін, дае высокую ацэнку літаратурным казкам. Што праўда, то праўда. Цудоўныя казкі створаны талентам прадстаўнікоў многіх літаратур СССР, у тым ліку і беларускімі літаратарамі. Чаго варты, скажам, неўміручыя «Казкі жыцця» Якуба Коласа! Яны належаць да лепшых старонак творчасці нашага песняра.

Натуральна, што пачаў гартаць кнігу, шукаючы коласаўскія казкі (хоць адну). Ды дзе там!

Вельмі ж мудра распарадзіўся складальнік плошчай тома, адвёўшы большую палову яго... рускім пісьменнікам. Ніхто, зразумела, нічога не мае супраць цудоўных казак М. Гогаля, У. Даля, Л. Талстога, М. Горкага, І. Буніна і іншых. Але ж ёсць у іх і дастойныя «сапернікі» ў іншых літаратурах народаў СССР.

Падзел, сапраўды, «брацкі». Старэйшы брат прадстаўлены 70-ю творамі, а ўсе іншыя толькі 49-ю. Прапорцыя па імёнах тая ж, па сутнасці: 20 — рускіх пісьменнікаў і 19—нацыяналаў, літаратараў Украіны, Малдавіі, Казахстана, Арменіі, Грузіі, Азербайджана, Беларусі, Латвіі, Літвы, а таксама некаторых аўтаномных рэспублік і нацыянальных акруг. Пры такім падзеле беларусам яшчэ пашанцавала: надрукавана адна казка З. Бядулі і дзве—У. Караткевіча (пераклад на рускую мову Б. Якаўлева і В. Шчадрыной).

І яшчэ адзін штрых. В. Калу-

## *Чытаючы часопісы*

# З ВІХУРЫ «КРУЧАНЫХ ДЗЁН»

Як і папярэднія, багаты на змястоўныя матэрыялы чарговы, восьмы нумар часопіса «Полымя». Аднак, бадай, не памылюся, калі скажу, што пераважная большасць чытачоў пачне знаёмства з публікацыямі з раздзела «З літаратурнай спадчыны». Так ужо сталася, што дзякуючы Яўгену Лецку мы мелі магчымасць пазнаёміцца са шмат якімі творамі аднаго з ахвяр сталінізму Лукаша Калюгі. У тым ліку з незавершанымі аповесцямі «Дзе косці мелюць» і «Утрапенне», якія прыйшлі з небыцця на старонкі «Маладосці» (1989, №12).

Аднак у той час, калі яго, як і многіх, абвінавачвалі ў «контррэвалюцыйнай дзейнасці», Л. Калюга працаваў і над раманам «Пустадомкі». Гэты твор таксама ўдалося адшукаць Я. Лецку. Яго і публікуе «Полымя». Адразу звяртаеш увагу на час і месца напісання рамана, што пазначана ў канцы: «Красавік 1933 — ліпень 1935 г., сутарэнне ў Менску — у Ірбіце на выгнанні».

Падумаць толькі: арышт, які прыпаў менавіта на гэты перыяд, допыты, няўпэўненасць у далейшым лёсе, а пісьменнік жыве новымі задумамі! Мо таму, што яму тады споўнілася ўсяго дваццаць чатыры гады, шмат друкаваўся, карыстаўся папулярнасцю і валодаў, мовячы словамі Кузьмы Чорнага, сказаным з іншай нагоды, талентам і не абы-якім.

Задаткі гэтага таленту і даюць аб сабе знаць у завершаных старонках рамана, а што ён мусіў працягвацца — сумнення быць не можа. Ёсць у творы і пэўная фрагментарнасць, эскізнасць, заўважаецца свайго роду і пераклічка з тым, што пісалася адначасова. Скажам, адзін з галоўных герояў Марка Чугаеўскі атрымлівае ліст ад свайго брата, маладога пісьменніка Данілы Невядомскага. Скардзіцца на гарадское жыццё-быццё, адначасова задумваецца і над сутнасцю складаных працэсаў, якія адбываліся на Беларусі, ды і па краіне ў цэлым. «Любы браце!— пісаў ён Марку на вёску.— Ты заўважыў, што людзі кручаных дзён сіверынаю чуваць? Як бы ў чыстым полі, дзе адно дзікае лінялае неба было тупа звісшы, раслі й гадаваліся яны».

Але ж падобныя думкі — крыху інакшымі словамі—былі ўжо ў аповесці «Дзе косці мелюць». Там гэтак жа балюча, крыўдліва гучала туга па незваротнасці пройдзеных дзён, калі з імі адышло шмат нерушавага, забыліся многія народныя святы і звычаі. Канешне ж, калі б Л. Калюгу далі час завяршыць гэтыя абодва творы, ён бы пазбавіўся такіх паўтораў, штосьці апусціў бы, нешта канкрэтызаваў. Пакінуў бы толькі найбольш важнае, тое, што найлепшым чынам працавала на выяўленне мастакоўскай задумы.

Задума ж у рамане значная. Л. Калюга адным з першых задумваўся над непрыкаянасцю чалавека, які нарадзіўся і вырас у вёсцы, у чужым для яго горадзе. Нездарма Даніла Незядомскі скардзіцца Марку на свой лёс: «Як пустадомкі, туляемся каля чужых халодных зуглоў. Ды калі й свой па ордэры завядзецца, у ім, не сагрэтым пакаленнямі, пуста і няўтульна, як у ваўкаўні». Гэтае адчуванне, Л. Калюга не сумняваўся, прынесена якраз «кручанымі днямі», што адрывалі людзей ад зямлі, нацыянальнай глебы, шпурлялі ў вір падзей, на жаль, пакуль што неўсвядомленых, а таму да канца і незразумелых.

«Пустадомкавасць» для Л. Калюгі — пэўная сацыяльная з'ява, таму ён так пільна прыглядаецца да асобных носьбітаў яе. Ці не найбольш характэрны сярод іх — Даніла Невядомскі. Нездарма ў народзе пра такіх кажуць: малады ды ранні. Даніла хутка і не надта шкадуючы развітаўся з блізкім, родным асяроддзем, падаўся шукаць славы, друкуецца, рыхтуе кнігі. І ўсё ж, як бы там ні было, гэта звычайнае перакаці-поле. Без трывалых каранёў, без моцнай глебы пад нагамі. Невыпадкова і прозвішча ў Данілы адпаведнае. А прозвішчам гэтым ён ганарыцца. Калі чарговая каханка атрымала ад Данілы запрашальную запіску каб пайсці ў кіно, яна было засумнявалася, ці сапраўднае гэта прозвішча. Нават не схавала свайго здзіўлення: «вельмі благі псеўданім». На што Даніла катэгарычна заявіў: «Вы памыліліся. Хоць такі подпіс і стаяў пад невялічкімі абразкамі з сялянскага жыцця, усё ж ён мае ўласнае прозвішча. Не вельмі ўважаю псеўданімы».

Невядомскі не надта прытрымліваецца маральных прынцыпаў ва ўзаемаадносінах з тымі, на каго кінуў вока. Па сутнасці ў яго такіх прынцыпаў няма і быць не можа. Ці то жартам, ці нахабствам, але свайго абавязкова дамагаецца. Няважна, разведзеная кабеціна гэта ці маладая, рамантычна-наіўная дзяўчына...

У больш прывабным святле абмаляваны паэт Арсень Пакумейка, хоць ён мала ў чым сягае далей Невядомскага. Мімаходзь кінутыя аўтарам словы — «Вы, напэўна, ведаеце такіх малых»— гучаць крыху іранічна. Але Арсень, у адрозненне ад Данілы, яшчэ не такі завершаны пустадомак. Прынамсі, ён здатны на шчырыя ўзаемаадносіны, не разменьваецца ў пачуццях, кахае Любу, з якой некалі вучыўся. І вершы яго не пазбаўлены непасрэднасці, і сам чалавек таварыскі, хоць у асяроддзі, да якога ён належыць, гэта нікому, бадай, непатрэбна: «Было людзям на смех і сабе на глум Пакумейку шчырым быць. Так, прынамсі, яму й Невядомскі раіў, але пераканаць не мог».

Лукаш Калюга ўвогуле ў гэтым рамане, як ні ў адным сваім творы, паказвае літаратурнае, а правільней — калялітаратурнае асяроддзе. І трэба сказаць, у вельмі непрыглядным выглядзе. Чаго варта прозвішча аднаго з крытыкаў — Цытатавіч?! Да ўсяго і «сам вялікі пісьменнік», да якога за парадай даволі часта заходзяць і Даніла Невядомскі, і Арсень Пакумейка, хоць часам і здольны спагадліва паставіцца да творчай моладзі, але грубаваты, самаўпэўнены і сваімі рэзкімі, хоць у нечым і справядлівымі прысудамі можа зняважыць чалавека.

Усяму гарадскому, як на думку Л. Калюгі, чужароднаму, у рамане супрацьстаіць вясковае жыццё. Носьбіт трывалай народнай маралі Марка абмаляваны аўтарам з сімпатыяй, паказаны чалавекам, лучным з прыродай.

Значны падтэкст у творы набывае вобраз сонца. Яно ўвасабляе сабой і жыццё на зямлі, і вечнасць быцця, і кароткасць, імгненнасць чалавечага лёсу. Пастаянна гэтую сувязь з сонцам адчувае Марка, які ў лісце да сябра заўважае: «Я не магу... Не магу, калі надвечар бачу яго на захадзе недзе там над нашым, Шылавіцкім, борам

Лёс помніка архітэктуры

# «Дрэмле памятка дзён...»

«Нельга без болю глядзець на архітэктурны помнік першай палавіны мінулага стагоддзя ў г.Косава Івацэвіцкага раёна. Палац значна пашкоджаны. Як добра было б аднавіць яго, нешта падбудаваць і адрамантаваць ды стварыць, скажам, музей»... У апошні час падобныя пісьмы, адрасаваныя ў Івацэвіцкі райвыканком і Брэсцкі аблвыканком, сталі паступаць асабліва часта. Зразумела цікаўнасць людзей да аднаго з помнікаў нашай гісторыі, іх заклапочанасць яго лёсам...

Ён і сёння ўражвае сваёй велічнасцю і строгасцю архітэктуры. Так і здаецца, што вось-вось пачуецца цокат падкоў, іржанне коней і цяжка праімчыць міма атрад рыцараў у даспехах сярэдневякоўя. Але яны, гэтыя сцены, ніколі не бачылі крыжакоў, не чулі звону рыцарскіх мячоў. Усяго паўтары сотні гадоў велічнаму гмаху, узведзенаму ў псеўдагатычным стылі па праекце члена Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў Марконі. Атрымаў ён заказ зрабіць праект будучага палаца ад буйнога землеўладальніка Пуслоўскага ў другой чвэрці XIX стагоддзя.

Вырас палац на ўзвышшы, ля падножжа якога былі прыгожыя азёры. Яшчэ і сёння старажылы помняць, як пяшчотнічалі на сонцы тут ружы і цюльпаны, як шумелі лістотай рэдкія пароды дрэў, завезеныя з Італіі і Амерыкі, Бліжняга Усходу. Непаўторнае афармленне мелі шматлікія пакоі, у якіх захоўваліся рэдкія кнігі і старажытныя рукапісы.

Распарадзіўся граф абнесці частку палаца і парку трохметровай каменнай сцяной. Хутка гаспадары абанкруціліся, і тады палац пачаў пераходзіць з рук у рукі. У гады першай сусветнай вайны палац абрабавалі, а праз тры дзесяцігоддзі ён згарэў. Доўга з'ядаў агонь унікальнае аздабленне пакояў, мэблю, кветкі і дрэвы.

Сёння, гледзячы на будынак, кампазіцыя якога ўласціва класіцызму, на зубчастыя завяршэнні шматгранных высокіх вежаў, зробленых у стылі гатычнай старадаўнасці, на ўсе гэтыя рэшткі, якія і цяпер уражваюць сваімі памерамі і экзотыкай дэкаратыўных элементаў, міжволі думаеш пра тое, які б помнік мелі мы, каб у 44-м не было дапушчана вандалізму. Даводзіцца толькі шкадаваць, што здарылася гэта перад самым вызваленнем раёна, у маі 1944 года, ужо тады, калі нямецка-фашысцкія акупанты, не вытрымаўшы націску нашых войск, рыхтаваліся пакінуць Косава...



Фасадны бок палаца.

Фота М. ГАРМАША.

Неабходна зрабіць усё, каб Косаўскі палац паслужыў яшчэ не толькі сённяшняму, але і будучым пакаленням беларусаў,— такі лейтматыў у згаданых пісьмах. На працягу апошняга дзесяцігоддзя ішлі размовы пра аднаўленчыя работы, але не знаходзілася смельчака, які б рызыкнуў фінансаваць іх. Ды свет, як кажуць, не без добрых людзей. Відаць, шмат перадумаў пра лёс палаца старшыня калгаса імя Суворава, а цяпер кіраўнік калгаса-аграфірмы «Беларусь» Уладзімір Міхайлавіч Рымша, які, нягледзячы на шмат якія гаспадарскія клопаты, рашыўся.

Трымаю ў руках незвычайны дакумент. Гэта дагавор, па якім Беларускае спецыялізаванае навукова-рэстаўрацыйнае вытворчае аб'яднанне «Белрэстаўрацыя» Міністэрства культуры БССР абавязуецца выканаць праектна-доследныя работы, а калгас-аграфірма «Беларусь» аплаціць кошт выканаых работ у адпаведнасці з прыкладзеным каштарысам. Тут жа ўказваецца сума — 60754 рублі...

Галоўны архітэктар Брэсцкіх майстэрань Інстытута «Белспецпраектр э с т а ў р а цыя» Уладзімір Казакоў размову з намі пачаў з ухвалення высокага прафесійнага майстэрства тых, хто паўтара стагоддзя назад узводзіў палац у Косаве, адзначыў выдатную якасць работы як муляраў, так і тынкоўшчыкаў. Затым ён паведаміў, што група архітэктараў прыступіла да комплексных навуковых даследаванняў. Вывучаецца архітэктура, вышукваюцца крыніцы, якія падкажуць тую абстаноўку, што існавала ў палацы да знішчэння.

— Такіх дакументаў у нас — кот наплакаў: некалькі здымкаў ды паштовак,— гаворыць У. Казакоў. — Гэтага мала, каб вярнуць помніку былую прыгажосць. Будзем звяртацца да польскіх улад, у прыватнасці, кіраўнік групы гісторыкаў С. Адамовіч збіраецца паехаць у Кракаў, каб знайсці нешта ў архівах. Мы звяртаемся да ўсіх тых, хто хоць што-небудзь захаваў з матэрыялаў па гісторыі палаца, яго афармлення, хто помніць, як ён выглядаў знешне і знутры. Гэта дапаможа нам зрабіць палац такім, якім ён быў.

«Будынак жа даволі загадкавы, шмат у ім цікавага»,— з такімі словамі архітэктар спыняецца ў невялікім памяшканні і пляскае ў далоні. Гук падхопліваюць сцены. Уладзімір Нахімавіч ударае па сцяне рукою — і зноў у памяшканні нібы ажывае камертон.

Рэстаўратары выказалі здзіўленне вентыляцыяй былога палаца, якая служыла некалі, па іх вызначэнні, адначасова як для праветрывання, так і для абагрэву пакояў. Паказалі пакоі паміж першым і другім паверхамі, якія размешчаны па абодва бакі фасаду, але чамусьці маюць усяго адзін уваход.

— Яшчэ б гадоў дзесяць прайшло і ўжо ніхто не змог бы дапамагчы палацу,— гаворыць У. Казакоў. — Разбураецца цэгла, лушчыцца тынкоўка... Вельмі важна, хто пасля гатовага праекта возьмецца за работу. Добра, калі ў дапамогу будаўнікам-рэстаўратарам будзе падключана якая-небудзь падрадная арганізацыя. А яшчэ лепш, калі б знайшліся выканаўцы з-за мяжы, якія б зрабілі ўсё і хутчэй, і больш якасна.

**М. РЫМАЧ.**

г. п. Івацэвічы.




**З 24 ПА 30 ВЕРАСНЯ**

**25 верасня. 21.00**

**СПАДЧЫНА**

**Размова пойдзе пра «белыя плямы» ў гісторыі Беларусі.**

**26 верасня. 21.15**

**ТЭАТР І ЧАС**

**Парыжскі тэатр «Лабрадор» у Мінску.**

**Спектакль французскай трупы пастаўлены па дакументальнай прозе П. Сіхроўскага «Нарадзіцца вінаватым — нарадзіцца ахвярай» па інтэрв'ю дзяцей нацыстаў і дзяцей іх ахвяр—яўрэяў.**

**Размову з рэжысёрам-пастаноўшчыкам Стэфаніяй Лоік і акцёрамі вядзе журналіст Мая Гарэцкая.**

**28 верасня. 18.00**

**ПАКАЗВАЕ ГРОДНА**

**На прынёманскіх прасторах.**

**Літаратурна-мастацкі часопіс.**

**Гледачы пазнаёмяцца з самадзейным паэтам Я. Мацвеевым з Наваельні, са спявачкай з вёскі Ахонава Н. Бурак і пабываюць на вялікім свяце «Дзятлаўскае падвор'е», якое было запісана ва ўрочышчы Рыбакі.**

**29 верасня. 13.15**

**ПОЛАЦКІ КАЛЕЙДАСКОП**

**Да 500-годдзя Ф. Скарыны.**

**У перадачы бяруць удзел філолаг з Лондана Джэймс Дзінглі, нашчадак Ф. Скарыны Стэнлі Скарына з Канады, беларускія пісьменнікі. Гледачы стануць удзельнікамі літургіі ў Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры.**

**29 верасня. 16.50**

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

**Развагі аб этычных праблемах творчасці, палеміка наконт сучаснага літаратурнага працэсу і грамадска-палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы.**

**Свае новыя вершы прачытае народны паэт Беларусі П. Панчанка.**

**30 верасня. 19.35**

**У ЖЫВАПІСЕ, ГРАФІЦЫ, СКУЛЬПТУРЫ**

**Вобраз Ф. Скарыны — асветніка і першадрукара славянскіх народаў у выяўленчым мастацтве Беларусі — тэма чарговага выпуску тэлечасопіса. Перадача пазнаёміць з выстаўкай беларускіх мастакоў, прысвечанай юбілею знакамітага суайчынніка. Прагучаць вершы Ф. Скарыны.**

**30 верасня. 23.25**

**СТУДЫЯ «РЭЙ»**

**Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі запрашае.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и совета Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

Літаратура і Мастацтва

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ, Віталь ТАРАС — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел інфармацыі: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА, Уладзімір ЯГОЎДЗІК — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы: Вячаслаў ЛАПЦІК — 33-24-62; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.